© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

*У Нясвіжы злавілі польскіх «дыверсантаў» (стар. 2)*
*Канчатковы дыягназ. Артыкул Аляксандра Старыкевіча (стар. 4-5)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Пятніца, 13 чэрвеня 1997 г. № 63 Кошт свабодны

## Нацыянальны патэнцыял Беларусі вачыма ААН

**Учора, 12 чэрвеня, быў афіцыйна абвешчаны Даклад ААН аб развіцці чалавека за 1997 год. У рэйтынгу развіцця чалавечага патэнцыялу Беларусь заняла 62 месца ў свеце.**

Праграма развіцця чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (ПРААН), выкарыстоўваючы магчымасці 134 аддзяленняў, якія знаходзяцца ў розных краінах свету, праводзіць даследаванні і робіць экспертныя ацэнкі, што тычацца асноўных фактараў жыцця людзей — беднасці, узроўню адукацыі, экалагічнай чысціні асяроддзя, узаемаадносін асобы і грамадства і г.д. Сваю асноўную місію ПРААН бачыць у аказанні дапамогі краінам у стварэнні нацыянальнага патэнцыялу, які б спрыяў дасягненню ўстойлівых тэмпаў развіцця чалавека, пры гэтым прыярытэтная ўвага надаецца праблеме барацьбы з беднасцю і стварэнню раўнапраўнага грамадства.

Штаб-кватэра ПРААН месціцца ў Нью-Йорку, а 85% персаналу працуе ў краінах, народам якіх патрэбная дапамога. У мінулым годзе на праграму было патрачана больш за 2 мільярды долараў, якія паступілі ад краін-членаў ААН, а таксама ад прыватных ахвярадаўцаў.

У дакладзе за 1997 год — восьмым з пачатку дзеяння ПРААН — адзначаецца, што ўрады многіх краін дасягнулі значных поспехаў у барацьбе з беднасцю. Аднак значная частка чалавецтва паранейшаму жыве ў галечы. Сёння каля 1,3 мільярда людзей маюць даход менш за 1 долар у дзень. Па ацэнках экспертаў, у рэспубліках былога СССР колькасць тых, хто жыве ніжэй ўзроўню беднасці, складае 120 мільёнаў чалавек, або амаль трэцюю частку ўсяго насельніцтва.

Аўтары даклада распрацавалі індэксы развіцця чалавечага патэнцыялу (ІРЧП) для 175 краін свету. Гэты паказчык вызначаецца з улікам сярэдняй працягласці жыцця, узроўню адукацыі і рэальных даходаў людзей. Беларусь займае ў спісе 62 месца і аднесеная ў групу краін з сярэднім узроўнем развіцця чалавечага патэнцыялу. Нашыя бліжэйшыя суседзі таксама залічаныя ў гэтую групу і займаюць месцы: Польшча — 58, Расія — 67, Літва — 76, Латвія — 92, Украіна — 95. Адносна высокая пазіцыя Беларусі ў гэтым рэйтынгу тлумачыцца высокім узроўнем адукаванасці нашых суайчыннікаў, але прагназуецца, што ў будучыні паказчык знізіцца за кошт далейшага збяднення насельніцтва і моцнага скарачэння працягласці жыцця.

Сярод дзяржаваў былога сацыялістычнага блоку чатыры ўваходзяць у групу краін з высокім узроўнем развіцця чалавечага патэнцыялу. Гэта Славенія (35 месца), Чэхія (39), Славакія (42) і Венгрыя (48). А найлепшыя магчымасці рэалізацыі свайго патэнцыялу маюць жыхары Канады — гэтая краіна займае першае месца ў спісе. У тройку лідэраў уваходзяць таксама Францыя і Нарвегія. Самыя неспрыяльныя ўмовы для развіцця людзей існуюць у афрыканскіх краінах на поўдзень ад Сахары, замыкаюць рэйтынг Руанда і С'ера-Леоне.

Аналізуючы глабальныя працэсы другой паловы XX стагоддзя, аўтары даклада прыходзяць да высновы, што актыўная буйная індустрыялізацыя непасрэдна не прыводзіць да зніжэння ўзроўню беднасці насельніцтва. Эксперты прагназуюць, што устойлівых тэмпаў эканамічнага росту ў наступным стагоддзі дасягнуць тыя краіны, якія на першае месца ва ўнутранай палітыцы паставяць барацьбу з беднасцю і рэалізацыю чалавечага патэнцыялу ў сферы адукацыі, творчасці, прымянення асабістай ініцыятывы.

У дакладзе таксама фармулююцца тры асноўныя глабальныя праблемы, якія перашкаджаюць прагрэсу чалавецтва: узброеныя канфлікты, дэградацыя навакольнага асяроддзя, ВІЧ/СНІД. І гэтыя праблемы могуць быць пераадоленыя толькі сумеснымі намаганнямі ўсіх краін і народаў.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## З Буга – на Чорнае мора

**Учора прэзідэнт Беларусі наведаў Брэст, адкуль збіраецца выляцець у Сочы, каб правесці большую частку свайго двухтыднёвага адпачынку.**

Набірацца сілаў Лукашэнка будзе ў славутым санаторыі «Беларусь», дзе для яго падрыхтаваная спецыяльная рэзідэнцыя. Утрыманне рэзідэнцыі, як і адпачынак прэзідэнта, аплочваюцца з бюджэту краіны. Такім чынам, ніякіх пуцёвак Рыгоравічу купляць не прыйшлося.

Крыніцы ў адміністрацыі прэзідэнта не выключаюць, што ў Сочы беларускі прэзідэнт сустрэнецца з прэм'ер-міністрам Расіі Віктарам Чарнамырдзіным, які цяпер таксама адпачывае на чарнаморскім узбярэжжы (на былой «дачы Брэжнева», якая знаходзіцца недалёка ад санаторыя «Беларусь»). Калі гэтая сустрэча адбудзецца (а дачнікі-суседзі маюць звычку сустракацца спецыяльна альбо хаця б выпадкова), то хутчэй за ўсё беларускаму прэзідэнту прыйдзецца мець не вельмі прыемную размову з Чарнамырдзіным. Нагадаем, што днямі Лукашэнка абвінаваціў урад Расіі ў зрыве рэалізацыі саюзнай дамовы з Беларуссю. Па звестках, гэтыя заявы Лукашэнкі былі сустрэтыя Чарнамырдзіным з абурэннем і ён чакае ад Рыгоравіча, як меншае, тлумачэнняў. Карацей кажучы, паўнавартасна адпачыць Лукашэнку наўрад ці дадуць і ў Сочы.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Вадзіцель генеральнага пракурора забіў чалавека

*СВАБОДА спрабавала атрымаць падрабязнасці здарэння ў прэс-службе Пракуратуры РБ, але там наадрэз адмовіліся адказаць на нашыя пытанні*

Паводле звестак рэдакцыі, вадзіцель генпракурора Бажэлкі, кіруючы ў нецвярозым стане службовым *BMW*, збіў жанчыну — яна загінула на месцы. Гэта здарылася ў мінскім мікраараёне Уручча — на дарозе, якая вядзе ў аэрапорт.

## Панядзелак – цяжкі дзень

*Тры «тройкі» будуць шукаць выйсце з канстытуцыйнага крызісу*

У панядзелак, 16 чэрвеня, у Мінску плануецца правесці першае паседжанне рабочай групы, у якую ўвойдуць прадстаўнікі Вярхоўнага Савета, прэзідэнцкай адміністрацыі і Еўрапейскага Саюза.

Як вядома, гэтыя трохбаковыя кансультацыі павінны былі пачацца яшчэ ў канцы траўня, аднак сустрэча сарвалася па віне прэзідэнцкага боку, паколькі ўдзельнік перамоваў міністр замежных справаў Іван Антановіч раптоўна з'ехаў у камандзіроўку.

Еўрапейскі Саюз у рабочай групе будуць прадстаўляць Ян-Лукас ван Хорн (Нідэрланды), Мэцью Русел (Ірландыя), Іван Коджыкаў (Балгарыя). Яны мяркуюць працаваць у Мінску тры дні. Як паведамілі ў прэс-службе міністэрства замежных справаў, міністр Іван Антановіч у гэты час нікуды з'язджаць не збіраецца. Разам з Антановічам прэзідэнцкі бок будуць прадстаўляць Аляксандр Абрамовіч і Іван Пашкевіч. У «тройку» Вярхоўнага Савета ўваходзяць Генадзь Карпенка, Мечыслаў Грыб і Пётр Краўчанка.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**




## Напад на жонку Пазьняка

У мінулы панядзелак у цэнтры Варшавы ў тры гадзіны дня быў учынены напад на Галіну Вашчанку — жонку старшыні Беларускага народнага фронту Зянона Пазьняка. Двое невядомых мужчын спрабавалі збіць яе з ног, білі па спіне, вырвалі сумку, у якой знаходзіліся ключы ад кватэры і грошы, і ўцяклі. Напад адбыўся побач з домам, у якім Галіна Вашчанка пражывае разам з дачкой. (Зянона Пазьняка ў Варшаве цяпер няма, ён ад'ехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі).

Як паведаміў прэс-сакратар БНФ Сяргей Навумчык, Галіна Вашчанка з дачкой Надзеяй ужо 11 месяцаў знаходзяцца ў Варшаве, куды яны былі вымушаныя з'ехаць, ратуючыся ад праследу Лукашэнкі, вядомага сваёй помслівасцю. Г.Вашчанка ўдзельнічае ў выданні бюлетэня «Беларускія ведамасці», які выпускаецца ў Варшаве пры падтрымцы польскай газеты *Nowe państwo*.



*На здымку: Галіна Вашчанка*

*«Мы спадзяемся, што паліцыя Польшчы зробіць усё магчымае для выяўлення злачынцаў,* — сказаў С.Навумчык. — *Нялішнімі будуць і дадатковыя меры бяспекі з польскага боку ў дачыненні да сям'і лідэра беларускай апазіцыі»*. Сяргей Навумчык расцэньвае гэты напад як *«аперацыю лукашэнкаўскіх спецслужбаў»*.

**М.Г.**

© PDF: Kamunikat.org 2010

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010
СВАБОДА 13 чэрвеня 1997 г., № 63

# 40 мільёнаў долараў амерыканцы «тармазнулі»

**На былой ракетнай базе каля Паставаў пасол ЗША Кенет Ялавіц перадаў беларускаму боку абсталяванне (на агульную суму 5 мільёнаў долараў) для ачысткі забруджанай глебы.**

Абсталяванне, у выглядзе трох тэхналагічных лініяў па тэрмічнай апрацоўцы, стабілізацыі і біялагічнай ачысткі забруджанай нафтапрадуктамі і іншымі шкоднымі рэчывамі тэрыторыі ракетнай базы, прадстаўлена Злучанымі Штатамі міністэрству абароны Беларусі ў рамках праграмы сумесных работ па зніжэнні ядзернай пагрозы (праграма Нана-Лугара). Працэс па вываду шкодных кампанентаў з глебы надзвычай працаёмкі, бо савецкія ракетчыкі настолькі забрудзілі зямлю бензінам, саляркай і мазутам, што нават на метровай глыбіні пясок загараецца ад паднесенай запалкі.

У сваёй прамове пасол Ялавіц адзначыў, што гэтае абсталяванне з'яўляецца часткай буйной праграмы дапамогі, на якую амерыканскі Кангрэс выдзеліў 119 мільёнаў долараў. 60 мільёнаў Беларусь ужо атрымала ў выглядзе паслуг і выдаткаў на падрыхтоўку кадраў. У прыватнасці, амерыканцамі падрыхтавана 15 спецыялістаў для работ па ачышчэнні навакольнага асяроддзя ў Паставах і на іншых былых ракетных базах. Яшчэ 19 мільёнаў долараў будуць выдаткаваныя ў бліжэйшы час.

Амерыканскі пасол падкрэсліў, што дапамога ЗША напрамую залежыць ад таго, ці прытрымліваецца краіна, якая яе атрымлівае, міжнародна прынятых нормаў у галіне правоў чалавека. Паколькі сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі працягвае пагаршацца, наша краіна была выключана з ліку дзяржаваў, якія атрымаюць фінансавую дапамогу ў гэтым годзе. Таму Беларусь зможа атрымаць наступныя 40 мільёнаў долараў толькі ў тым выпадку, калі ўлады краіны прадэманструюць сваю прыхільнасць прынцыпам АБСЕ ў галіне правоў чалавека, — падкрэсліў Кенет Ялавіц.

Пасол Злучаных Штатаў абверг заявы беларускіх уладаў наконт таго, што нібыта Беларусь сёлета не атрымала *«ніводнага долара дапамогі з боку замежных дзяржаваў»*. Сп.Ялавіц нагадаў, што ў красавіку гэтага года ЗША перадалі міністэрству абароны Беларусі 171-кватэрны дом у Гродна, пабудаваны на амерыканскія грошы, было перададзена абсталяванне для ачысткі глебы, а таксама выдзелены сродкі для знішчэння ў Беларусі стартавых пляцовак ракетаў СС-25 (гэтага патрабуе дамова СТАРТ). З часу атрымання нашай краінай незалежнасці ў Беларусь са Злучаных Штатаў паступіла дапамогі на суму каля 400 мільёнаў долараў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Замежныя эксперты шукалі ў Магілёве працоўныя месцы

**У Магілёве працавала група замежных экспертаў у галіне працоўнай занятасці. Яны прыехалі ў рамках праграмы Еўрасаюза *TACIS*.**

Падчас выканання гэтай праграмы спецыялісты службы занятасці Магілёва пазнаёміцца з тым, як працуюць іх калегі ў заходніх краінах. У вырашэнні праблемы беспрацоўя вельмі важнае месца займае прафесійная перападрыхтоўка людзей. У Магілёве з дапамогай еўрапейскіх партнёраў будзе наладжанае навучанне дрэваапрацоўшчыкаў з веданнем сучасных тэхналогій, рамонтнікаў заходніх аўтамабіляў і спецыялістаў па маркетынгу. Заключным этапам ажыццяўлення праграмы стане стварэнне 100 новых рабочых месцаў для тых, хто прайшоў курс навучання.

Эксперты адзначылі тры асноўныя моманты, якія моцна перашкаджаюць вырашэнню праблемы беспрацоўя. Па-першае, у нас вельмі неразвітая сфера прыватнага бізнесу, якая ў Еўропе стварае асноўную колькасць працоўных месцаў. Па-другое, на рынку вакансій вельмі вялікая доля нізкааплатнай, некваліфікаванай працы, якой зусім не хоча займацца моладзь. Па-трэцяе, у Беларусі высокі ўзровень прыхаванага беспрацоўя, што разбэшчвае людзей, асабліва — моладзь. На думку замежных экспертаў, гэтыя абставіны зніжаюць кошт нашай працоўнай сілы і яе якасць. Галоўным сродкам вырашэння праблемы яны лічаць у развіццё недзяржаўнага сектара ў эканоміцы.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Для студэнтаў – скідка

**У гродзенскай гарадской арганізацыі БНФ абраны новы старшыня — Сяргей Мальчык, які працуе выкладчыкам медыцынскага інстытута.**

На справаздачна-выбарчай канферэнцыі выступіў Лявон Баршчэўскі, які выконвае абавязкі старшыні БНФ. Ён расказаў аб падрыхтоўцы да з'езда Фронту (ён адбудзецца 21 чэрвеня) і аб цяжкасцях, звязаных з гэтым. З прычыны нястачы сродкаў за кожнага дэлегата мясцовыя арганізацыі мусяць унесці 150 тысяч рублёў, скідка будзе толькі для студэнтаў. Сп.Баршчэўскі паведаміў, што Фронт моцна «памаладзеў», 75% яго новых членаў гэта моладзь да 25 гадоў. На яго думку, у час з'езда з боку ўладаў можна чакаць розных неспадзяваных крокаў. У якасці прыклада ён спаслаўся на II Кангрэс дэмакратычных сіл, перашкодзіць якому спрабавалі старым спосабам, узняўшы фальшывую трывогу аб нібыта падкладзенай міне.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# У Нясвіжы злавілі польскіх «дыверсантаў»

Чатыры грамадзяніны Польшчы былі затрыманыя на некалькі гадзінаў мясцовымі ўладамі Нясвіжскага раёна. Вертыкальшчыкі сцвярджаюць, што палякі незаконна пранікілі ў пахавальню князёў Радзівілаў, якая знаходзіцца ў сутарэннях Фарнага касцёла. Між тым кіраўнік Нясвіжскай парафіі ксёндз Генрых Акалатовіч лічыць, што гэта была чарговая правакацыя ўладаў, накіраваная на кампраметацыю яго ў вачах прыхаджанаў касцёла.

Група польскіх даследчыкаў прыехала ў Нясвіж 5 чэрвеня на сваім аўтамабілі. Кіравала даследчыкамі сп-ня Зюлкоўска, спецыяліст польскай арганізацыі «Савет аховы помнікаў барацьбы і пакутніцтва». Разам з ёй былі два студэнты і вадзіцель. У другой палове дня, пасля агляду мясцовых каталіцкіх могілак, палякі прыйшлі ў Фарны касцёл і з дазволу ксяндза Акалатовіча спусціліся ў падполле, дзе знаходзіцца родавы склеп князёў Радзівілаў. Гэты візіт не застаўся незаўважаным мясцовымі жыхарамі, якія сваімі «сігналамі» паднялі на ногі кіраўніцтва раёна.

Далейшыя падзеі варта выкласці ў дзвюх версіях. Па першай, якая належыць намесніцы старшыні райвыканкама Галіне Пархомчык, невядомыя інфарматары паведамілі, што ў касцёл пранікла група іншаземцаў, якія знаходзяцца там ужо больш за дзве гадзіны, і з касцёла чуваць нейкі стук. Рэагуючы на «сігнал», чыноўнікі паехалі да касцёла, каб разабрацца. Па словах Галіны Пархомчык, разам з ёй у брыгаду «хуткага рэагавання» ўваходзілі міліцыянт, інструктар па ахове помнікаў і намеснік рэспубліканскага камітэта па ахове культурнай спадчыны Васіль Чэрнік, які ў той час быў у камандзіроўцы ў Нясвіжы. Візіцёраў затрымалі і адвезлі ў райвыканкам, дзе высветлілі іхнія асобы і патлумачылі ім, што, згодна з беларускім Законам аб ахове культурнай спадчыны, ім трэба было ўзгадніць свае дзеянні з мясцовымі ўладамі. *«Яны пагадзіліся з намі і падпісалі акт аб тым, што парушылі закон, пасля чаго былі адпушчаныя і працягнулі сваю вандроўку па Беларусі»,* — запэўнівае Галіна Пархомчык.

Надзвычайную пільнасць нясвіжскіх уладаў да замежных гасцей Г.Пархомчык тлумачыць тым, што горад і без таго поўніцца чуткамі аб знікненні гістарычных каштоўнасцяў з Фарнага касцёла. *«Нават калі гэта даследчыкі, то навошта было пераапранацца ў рабочую форму і спускацца на дзве гадзіны ў склеп, які можна агледзець за 10 хвілінаў?»* — задаецца пытаннем намеснік старшыні Нясвіжскага райвыканкама. Яна падкрэсліла, што ўлады не менш за ксяндза Акалатовіча клапоцяцца аб захаванні радзівілаўскай спадчыны.

Між тым кіраўнік парафіі выкладае версію, якая значна розніцца ад афіцыйнай. Па яго словах, госці правялі ў склепе не больш 30 хвілінаў, падчас якіх агледзелі надпісы на ўсіх трунах, што знаходзяцца ў склепе. Яны вельмі заклапочаныя тым, каб гэтыя гістарычныя рэліквіі захаваліся і можна было яшчэ праз многія стагоддзі даведацца, хто пахаваны ў склепе. Па словах ксяндза Акалатовіча, у аперацыі «хуткага рэагавання» разам з міліцыянтамі і сп-няй Пархомчык удзельнічалі таксама галоўны «вертыкальшчык» раёна сп.Дражын ды намеснік шэфа мясцовага КДБ сп.Гусак, які спрабаваў затрымаць прыхаджанку, якая па даручэнні ксяндза адчыніла палякам уваход у склеп Радзівілаў. Тое, як абыходзіліся прадстаўнікі ўлады з польскімі даследчыкамі, ксёндз назваў свавольствам і ганьбай. Па яго словах, міліцыяператрэсла ўсе рэчы ў машыне палякаў, у іх адабралі пашпарты і іншыя дакументы. Акт, складзены па выніках здарэння, сп.Акалатовіч назваў лухтой. Калі ён пераклаў змест гэтага дакумента гасцям з Польшчы, тыя заявілі, што іхнія словы выкладзеныя ў акце недакладна.

Ксёндз разглядае гэты інцыдэнт як чарговы эпізод у барацьбе мясцовых уладаў супраць кіраўніцтва Фарнага касцёла. Гэтая барацьба, па ягоных словах, вядзецца ўжо больш за 6 гадоў. *«Яны збіраюцца стварыць тут гістарычны запаведнік, каб з яго дапамогай кантраляваць касцёл, а значыць — думкі і душы прыхаджанаў. Але, пакуль я тут кірую парафіяй, гэтага не будзе»,* — заявіў ксёндз. З гэтай прычыны ён і не ставіць свой подпіс пад паперамі аб стварэнні гістарычнага запаведніка, у якім Фарны касцёл павінен стаць амаль што галоўным аб'ектам. *«400 гадоў касцёл належаў людзям і такім застанецца. Я ні на працэнт не давяраю мясцовым уладам, якія мараць аб тым, каб прыбраць яго да сваіх рук»,* — сказаў ксёндз.

Дарэчы, на наступны дзень пасля інцыдэнту ў Нясвіж прыязджала дэлегацыя Міжнароднага валютнага фонду, і старшыня райвыканкама Уладзімір Дражын прывёў ганаровых гасцей туды, адкуль днём раней выводзіў «невядомых іншаземцаў». *«Я не раблю розніцы паміж гасцямі і без праблемаў дазволіў ім агледзець прыгажосці Фарнага касцёла, хоць прысутнасць сп.Дражына і магла падштурхнуць мяне на іншыя дзеянні»,* — гэткае шчырае прызнанне зрабіў ксёндз Акалатовіч, развітваючыся з карэспандэнтам СВАБОДЫ.

Польскі консул Вальдэмар Мендзялеўскі інцыдэнт каментаваць адмовіўся. Ён абмежаваўся толькі пацверджаннем таго факта, што часовае затрыманне групы польскіх грамадзянаў у Нясвіжы сапраўды мела месца.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

ПРАЕКТ

# Па нашых дарогах – на карэйскіх джыпах

**У Беларусі плануецца стварэнне сумеснага прадпрыемства па зборцы джыпаў маркі *Hyundai Galloper*. Як лічаць удзельнікі праекта, першыя аўтамабілі могуць з'явіцца ўжо гэтай восенню.**



*На рынку джыпам давядзецца канкурыраваць з традыцыйнымі вазамі, старымі грузавікамі — і проста каламажкамі.*

Планы стварэння сумеснай вытворчасці з паўднёвакарэйскай фірмай *Hyundai* узніклі даўно. Аднак канкрэтныя пагадненні былі дасягнутыя падчас нядаўняга візіту дэлегацыі *Hyundai* у Мінск.

З беларускага боку ў стварэнні прадпрыемства выступае аўтатранспартнае дзяржаўнае прадпрыемства «Дарбудтрэст № 7», з карэйскага, натуральна, — карпарацыя *Hyundai*.

Папярэдне дамоўлена, што доля беларускага боку ў СП складзе 69%, а 31% акцый будуць мець карэйцы. Беларускімі будуць вытворчыя плошчы аўтатранспартнага трэста, рабочыя рукі, а з Паўднёвай Карэі будуць паступаць часткі, вузлы, элементы аўтамабіляў. На першым часе плануецца выпускаць няшмат — каля 25 аўтамабіляў у месяц. Затым, у залежнасці ад попыту, аб'ёмы вытворчасці будуць нарошчвацца і тэарэтычна могуць дасягнуць 2.500 джыпаў у месяц.

Прагнозы ўдзельнікаў будучага СП (прадаваць джыпы плануецца толькі на ўнутраным рынку Беларусі) вельмі аптымістычныя, але выклікаюць сумненні. Цана машыны сапраўды будзе адносна невысокай: джып *Hyundai Galloper*, як мяркуецца, будзе каштаваць 17—23 тысячы долараў ЗША. Для новай машыны такога класу кошт сапраўды прывабны: падобныя нават ужываныя аўтамабілі замежнай вытворчасці на беларускім рынку сёння каштуюць больш. Калі ж з часам удасца наладзіць уласную вытворчасць камплектуючых для джыпаў і скараціць колькасць паставак з Паўднёвай Карэі, то кошт аўтамабіляў можа яшчэ скараціцца. Аднак джыпы — магутныя машыны павышанай праходнасці, яны малапрыдатныя для гарадоў, дзе ў асноўным і жывуць людзі, для якіх цана ў 20.000 долараў невысокая.

Устаноўчыя дакументы будучага прадпрыемства павінны быць распрацаваныя ўжо ў ліпені. Да пачатку верасня плануецца наладзіць выпуск джыпаў, а таксама арганізаваць сэрвіснае і гарантыйнае абслугоўванне.

**Вераніка СТРОЕВА**

# Замест грошай даюць чэкі

**На Магілёўскім аўтазаводзе зарплату пачалі выплочваць не грашыма, а чэкавымі кніжкамі.**

Грошай на прадпрыемстве хранічна няма. Толькі цяпер пачалі выдаваць красавіцкія заробкі, дый тыя не поўнасцю. З касы работніку выдаюць крыху больш за мільён, а сярэдні заробак на заводзе — 2 млн. рублёў. Рэшту адміністрацыя вырашыла выдаваць у выглядзе чэкавых кніжак. Але ж на чэкі купіць прадукты і прамысловыя тавары магчыма толькі ў некалькіх буйных крамах горада.

Такая форма аплаты ў загадзе дырэктара завода названа добраахвотнай. Гэта значыць, што той, хто не хоча браць чэкі — можа чакаць грошы. Але невядома, калі яны будуць, і рабочыя бяруць чэкавыя кніжкі.

Аднак наўрад ці яны іх надоўга задаволяць: на тыя чэкі садавіну і гародніну на кірмашы не набудзеш, прычым магазінныя кошты многіх прадуктаў вышэйшыя, чым на рынку.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

ПРИГЛАШАЕТ ПОСЕТИТЬ ПРАГУ!
ЦЕНА БИЛЕТА ИЗ МИНСКА: В ОДНУ СТОРОНУ - 1300000 руб.
В ОБЕ СТОРОНЫ - 2250000 руб.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| ПОНЕДЕЛЬНИК | 12.00 | МИНСК | 10.30 | |
| ВТОРНИК | 16.30 | ГРОДНО | 06.30 | |
| ЧЕТВЕРГ | 20.00 | БЕЛОСТОК | 02.40 | |
| СУББОТА | 23.30 | ВАРШАВА | 23.20 | ВОСКРЕСЕНЬЕ |
| | 05.00 | ВРОЦЛАВ | 18.10 | СУББОТА |
| | 08.30 | НАХУД | 14.00 | ЧЕТВЕРГ |
| | 11.00 | ПРАГА | 12.00 | СРЕДА |

ВРЕМЯ ПО СТРАНЕ ПРИБЫТИЯ



СКИДКИ: ДЕТЯМ ДО 12 ЛЕТ - 50%
СТУДЕНТАМ - 40%
ДЕТЯМ ДО 4 ЛЕТ БЕЗ МЕСТ - БЕСПЛАТНО

СПРАВКИ В МИНСКЕ ТЕЛ. 227-04-73

Лиц. Мин. трансп. РБ сер. II № 0125 от 25.06.92 г.

Чытайце газету СВАБОДА ў Internet

http:\\www.gis.minsk.by

Адрас E-mail для даведак:
edit@svaboda.minsk.by

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# У беларусаў будзе ўласны дом

Апошнім часам у прэсе з'явіліся выказванні, што лозунг «Беларусь — наш Дом» недастаткова арыгінальны, што аўтары, якія прапагандуюць яго, нібыта ідуць у хвасце расійскай палітычнай думкі, якая для адной партыі прыдумала назву «Наш дом — Россия».

Тут ёсць пра што паспрачацца, бо існуюць дакументальныя доказы таго, што ідэя Беларускага Дома ўзнікла даўно. Для мяне Расія можа асацыявацца з камуналкай, «общагой», баракам і да т.п., але наўрад ці з домам.

У палітычным жыцці варта адрозніваць розныя варыянты падабенстваў. Так, калі б на Беларусі была ўтворана партыя з назвай нават не «Яблоко» (а, напрыклад, «Сліва», «Агурок» ці «Капуста»), але на падставе праграмных палажэнняў расійскага «Яблока» і з удзелам яго лідэра — гэта ўсё роўна было б праявай палітычнага пераймання.

Лозунгі ж «Наш дом — Россия» і «Беларусь — наш Дом» падобныя, але ўзніклі яны ў выніку развіцця палітычнай думкі, якая мела розныя вытокі. І ёсць сутнасныя адрозненні, яны — у супрацьлеглай накіраванасці згаданых лозунгаў. Як паміж двума вясковымі пеўнямі ўзнікнуць бясконцыя бойкі, калі прыбраць плот, які падзяляе іх тэрыторыі, так і людзі, якія прынялі ідэю «Беларусь — Наш Дом», у адказ на лозунг «Наш дом — Россия» заканамерна падумаюць: «Ваш дом — Расея? Добра. А наш Дом — Беларусь!».

У сённяшніх беларускіх рэаліях фармаванне такіх настрояў з'яўляецца, на мой погляд, больш важнай задачай, чым праблема арыгінальнасці палітычных лозунгаў і назваў. А як лічыце вы?

**Алесь АСТРОЎСКІ,**
*г.Гродна*

# Надо жить своим государством

Здравствуйте СВАБОДА!

Постоянно выписываю нашу газету, и вот решил написать сам.

Сейчас много говорят об объединении Беларуси с Россией. Я сам русский, мать и сестра мои живут в Ярославле, а я — в Брестской области, в военном городке, принял белорусское гражданство. Жена моя наполовину полька, наполовину белоруска, у нас двое детей.

Ни я, ни жена, ни дети не считаем, что надо объединяться. Пусть в России что-то лучше, что-то хуже. Но надо жить своим государством. В нем мы должны построить демократию, создать достойную жизнь. А такой гигант, как Россия, — пусть сам у себя разбирается. И не надо думать, что после объединения русские позаботятся о демократии в Беларуси. Они о ней и в своей-то федерации не думают.

Ввязываясь в объединительные игры, мы создаем себе очередную проблему — не только политическую, но, может быть, и военную. Основная масса нашей молодежи в открытую смеется и презирает нынешнее руководство страны. Они или уже избиратели, или ими скоро станут. Причем их будет все больше и больше, а обманутых и уважаемых ветеранов — все меньше и меньше. И логично, что в скором будущем большинство в Беларуси потребует независимости. Если это произойдет после объединения, то достаточно даже четверти населения, радикально настроенной на независимость, чтобы это вылилось (не дай Бог!) в вооруженный конфликт.

Не надо жить только сегодняшним днем. За последнии 10 лет сколько всего было в России — и войны, которые идут до сих пор, и вражда, и ненависть из ничего, и сотни тысяч смертей... У нас в Беларуси тоже любимые люди стали врагами, совесть не в почете у власти. И многие знают, что по телевизору им говорят такую неправду, как будто считают за дураков. Но уже не весь народ это смотрит. Надоело. Оскорбляются.

Я воевал в Афганистане, был командиром вертолета МИ-8. Участвовал в ликвидации последствий аварии на ЧАЭС, в мае 1986 года несколько раз висел на вертолете над четвертым реактором — замеряли радиацию. И я знаю, что есть цена человеческой жизни.

**Михаил УВАРОВ,**
*майор запаса, Пружанский район*

# И нас – большинство

Мне 27 лет, «белый воротничок», работаю в негосударственном секторе экономики. В первую очередь хочу поблагодарить газету за то, что не дает нам превратиться в иванов, родства не помнящих, равнодушных ко всему и всем. СВАБОДА дает ощущение того, что мы не одни, и — более того — нас большинство (не беру в расчет часть населения, которая не может объяснить, за что голосует, — эти люди просто ненавидят тех, кто выше их интеллектом).

На мой взгляд, Лукашенко практически реализовал до конца свою идею «развития» страны, делая ставку на полный контроль всех сторон жизни государством-монстром. Нельзя говорить, что он безыдейный человек,— он искренне верит, что государство лучше знает, что и когда нужно его гражданам. И он, как таран, реализует свою модель государства, словно консервативная и надоедливая бабушка, не понимающая, что повзрослевшие внуки не глупее ее и знают, чего хотят... Ему бы в свое время в Политбюро КПСС — тогда Союз бы еще, наверное, существовал. Лукашенко герой не нашего времени, он антигерой, а настоящего героя пока не видно.

По поводу национальной идеи и языка: считаю, что не нужно однозначно связывать эти понятия. Исторически сложилось, что, находясь между двумя полюсами европейской политики, Беларусь доказала свою состоятельность хотя бы тем, что самоидентифицирует себя как нечто отличное от своих соседей. Другое дело, что настойчивейшие попытки русификации не прошли даром. Но, тем не менее, большая часть населения нашей страны называет себя белорусами и хочет, чтобы их дети также были белорусами.

Это факт — мы не хотим растворяться среди соседей, не хотим делить их на братьев, сестер и мачех. Но и не хотим, чтобы водораздел в нации проходил по языку, на котором мы мыслим и изъясняемся. Трагично, что утратил былую силу белорусский язык, но те граждане, и (поверьте!) патриоты, кто говорит на русском языке, отнюдь не хуже патриотов, говорящих по белоруски — дело ведь не в языке, а в ментальности. Примеров, где граждане говорят на одном языке, но являются подданными различных стран, — множество. И в Беларуси все мы — белорусы, русские, украинцы, евреи, татары, поляки и т.п. — граждане одного государства. И многие действительно патриоты своей страны. Таких людей у нас в Беларуси не один миллион: объединившись, мы построим свободное, процветающее государство.

Я по национальности украинец, поскольку родители у меня с Украины, но своих детей я хотел бы видеть белорусами.

**Павел ВЛАДЫКА,**
*г.Минск*

# Найперш трэба вычысціць свой свінушнік

Газета СВАБОДА ўжо паведамляла пра феадальныя павіннасці ў калгасе «Дуброва» Светлагорскага раёна: каб атрымаць у калгасе сена на карову, трэба здаць калгасу цяля, абрабіць буракі і здаваць малако.

Нядаўна гэтая ідэя атрымала далейшае развіццё ў стылі славутага «рынкавага сацыялізму».

Да пенсіянеркі Бабковай Надзеі з в.Дуброва, да таго ж хворай на хрыбет, з'явіўся калгасны цівун (начальнік участка) у суправаджэнні тутэйшага вахмістра (участковага) і строга спытаў, чаго жанчына не ходзіць на праполку буракоў. Тая пачала даводзіць, што не можа, што хворая. Тады начальнік-цівун сказаў, што ў яе ёсць дочкі ў горадзе, хай прыедуць і сполюць. Інакш сена не дадуць. *«Дык я прадам карову»*, — толькі і сказала жанчына. Але, каб не гневаць начальства, мусіла пенсіянерка ехаць у Парычы да доктара і браць даведку пра сваю хваробу. Назаўтра яна падпільнавала свайго дабрадзея і падала яму даведку, але той параіў занесці яе ў кантору калгаса.

А вы кажаце: Беларусь — у Еўропу... Спярша трэба вычысціць свой свінушнік, а пасля ўжо ісці ў людзі.

**Нічыпар Н.,**
*в.Дуброва Светлагорскага раёна*

ЖИЗНЬ

# Лариса и Патрисия – «подруги по несчастью»

*Их судьбы очень похожи: обе матери-одиночки, обе вынуждены довольствоваться минимальной зарплатой. Лариса живет в Минске, а Патрисия — в Париже. Мы решили сравнить их реальное материальное положение*

Официально установленная французским правительством минимальная заработная плата составляет 6.407 франков (1.200 долларов) в месяц. «Чистыми» — после отчисления налогов — на руки выдается 5.017 франков. У нас с 1 апреля МЗП составляет 150 тыс. рублей (примерно 5,5 доллара) в месяц. Правда, налог на эту сумму не начисляется.

Много это или мало — так ставить вопрос некорректно. Сформулируем его иначе: насколько это мало?

Парижанке приходится тяжело: к 7 утра она отправляется на работу в булочную и завершает трудовой день в 13:30, получая те самые «минимальные» 5.000 франков в месяц.

Ее белорусская «подруга по несчастью» работает инженером на одном из предприятий радиоэлектронной промышленности в Минске. Среднемесячный оклад Ларисы в прошлом году составил 562 тыс. рублей, а доход с учетом премиальных и «детских» достигал 800 тыс. рублей (что в 8 раз превышало прошлогоднюю минимальную заработную плату, хотя и «не дотягивало» до средней по стране — 1,2 млн. рублей).

В пересчете по официальному курсу, доход Ларисы составил 40-50 долларов. Живя во Франции и работая инженером, она получала бы 4-5 тыс. долларов.

Но, как пел Высоцкий, в Париже мы нужны, как в бане пассатижи. В Париже живет Патрисия. В месяц она выплачивает 3.200 франков за двухкомнатную «квартирку» общей площадью 32 квадратных метра в непрестижном 17-ом округе столицы. Правда, местная мэрия из сострадания к матери-одиночке доплачивает ей пособие на аренду квартиры в размере 1.800 франков ежемесячно.

### На работу – «зайцем»

За однокомнатную «квартиру» общей площадью 28 квадратных метров в «спальном» микрорайоне Минска Лариса в зимнее время выплачивала 111 тыс. и 56 тыс. рублей за электричество, еще 90 тыс. уходило на детский сад (с 1 января нынешнего года — 109 тыс. рублей). Телефоном она пользуется крайне редко и не позволяет себе никаких задушевных бесед с подругами: на оплату этой услуги уходит 20, максимум 22 тыс. рублей в месяц. На проездной билет на два вида транспорта для поездки на работу требовалось еще 90 тыс. рублей, было бы удобнее покупать «единый» абонемент, но за это пришлось бы доплачивать еще 30 тыс. рублей. Итого, на оплату различного рода услуг требовалось 341 тыс. рублей.

Но она расходует меньше. Оправдывая себя тем, что столичная мэрия не оказывает ей как матери-одиночке никакого сострадания, она экономит на транспортных расходах. Проще говоря, ездит на работу «зайцем» и лишь в исключительных случаях пользуется метро. Поэтому «на всё — про всё» ей остается не 459 тыс. рублей, как было бы, веди она праведный образ жизни, а «целых» 579 тысяч. рублей, то есть примерно 19 тыс. рублей на две живых души на 1 календарный день.

Как известно, недавно Мингорисполком установил новый размер штрафа за безбилетный проезд (75 тыс. рублей). Если Ларису теперь оштрафуют, то ее ребенок на месяц лишится даже тех немногих «вкусностей», которые бы минимально необходимы всякому ребенку.

### Бэбиситтер – баба Маша

У Патрисии 1.200 франков уходит на оплату услуг приходящего «бэбиситтера» — по-нашему, няни, которая отводит сына по утрам в детский сад. Еще 400 франков «вылетают» на оплату счетов за пользование электричеством, газом и телефоном. 200 франков (с учетом 50% скидки) уходит на питание сына в саду, столько же — на выплату кредита за купленную в рассрочку мебель.

Несложно подсчитать, что в месяц «на всё — про всё» ей остается 1.100 франков, или меньше 40 франков в день (8 долларов). Столько стоит килограмм «очень среднего» мяса. Или 10 литров молока. Или столько же длинных, но, к сожалению, слишком тонких французских батонов.

А ведь надо еще покупать одежду, обувь, хозяйственные принадлежности, ездить на общественном транспорте (10 талонов на метро и автобус стоят 46 франков), заполнять досуг, водить дитя в парки и на карусели и прочее, и прочее. О машине не может быть и речи. О том, чтобы отложить что-то на «черный день» — тоже: что там откладывать, когда этот самый «черный день» тянется уже несколько лет. О полноценном летнем отдыхе приходится только мечтать.

Роль «бэбиситтера» у Ларисы исполняет мать-пенсионерка, когда здорова и когда у нее есть настроение. Возможно, она была бы удивлена тем, что во Франции за эту в общем-то необременительную обязанность ей какая-то нищая булочница выплачивала бы по 240 долларов в месяц.

Как было сказано выше, транспортные проблемы Лариса решает довольно просто; что касается всех остальных, не говоря уже о запасах на черный день или собственном автомобиле, то она относит все это к разряду совершенно бредовых идей. Гораздо хуже, что денег не хватает не только на игрушки для дочки, но и фрукты, даже если она свалится в гриппе, как это было зимой и когда витамины были совершенно необходимы.

### Нет «тачки», но есть дочка и дачка

Естественно, что речь не идет о новой мебели (какой там кредит?), об украшениях, парфюмерии и модной одежде. Все то, что не проедается, уходит на дочку. К тому же, если бы Лариса на свой свободный ежедневный остаток могла, как Патрисия, купить 1 кг даже «очень среднего мяса», то в месяц это составило бы 1,5 млн. рублей, так что ее зарплата почти сравнялась бы с окладом нашего президента, и она автоматически перешла бы в разряд очень, по-белорусским меркам, состоятельных людей.

Что, собственно, и произошло в декабре прошлого года, когда в ноябре-декабре она получила 50-процентную надбавку за исполнение обязанностей заболевшего начальника и получила по 1,2 млн. рублей, что лишило ее права получать пособие на дочку (156 тыс. рублей).

Следуют ли говорить, что парижанка принадлежит к самому низшему социальному слою и практически не имеет никакой квалификации, а минчанка — к среднему классу и является высококвалифицированным специалистом. Поэтому Патрисия при необходимости, когда подрастет сын, может поступить на курсы, получить профессию и повысить свой социальный статус и, соответственно, зарабатывать гораздо больше, чем теперь. Для Ларисы любые курсы могут означать только одно: снижение социального статуса и падение даже нынешних мизерных доходов.

Поэтому Лариса летом «полноценно» отдыхает на даче (клочок земли с сарайчиком под Молодечно), утешая себя, в духе коммунистов-утопистов, тем, что лучший отдых — это перемена рода занятий. Это единственное оправдание примитивного дачного земеледелия, благодаря которому семья как-то может обеспечить себя овощами и фруктами.

Правда, именной льготный абонементный билет, которым она пользовалась для проезда на дачу в электричке обходился ей в 120 тыс. рублей в месяц, нынешним летом она купить не сможет. Как считают в Управлении Белорусской железной дороги, льгота адресована пенсионерам и тем, кто живет в пригороде, но работает в городе. Но Лариса сможет приобрести тоже льготный билет — «на предъявителя», который обойдется ей в два раза дороже. Значит, появиться необходимость экономить по иной статье семейного бюджета, скорее всего — на подготовке дочери к школе (в сентябре она станет первоклассницей). И хорошо еще, что в нашем социальном государстве начальное образование «бесплатное».

Среди французов 2,3 млн. человек вынуждены довольствоваться сегодня минимальной зарплатой. Женщин — в 2,5 раза больше, чем мужчин. Особенно велика доля «минималов» среди тех, кто работает на предприятиях общественного питания (38%), в текстильной промышленности (около трети), а также в сфере ремонтных услуг. Напротив, есть такие профессии, которые обеспечивают значительно более высокую оплату труда: среди работников банковской сферы, например, минимальную зарплату получают лишь 2 процента, а в химической или автомобильной промышленности — и того меньше.

5.000 ежемесячных франков — это, по расчетам специалистов, всего на 1.700 больше, чем пресловутый «порог бедности». По опросам социологов, каждый второй француз опасается оказаться ниже этой «красной черты». Белорусам же бояться нечего. У нас чертой бедности считается 60% от минимального потребительского бюджета (937 тыс. рублей). А средний размер пенсий не достигает 700 тыс. рублей. Доля пенсионеров в структуре населения составляет примерно 1/4, и практически все они живут «ниже официальной черты», то есть в нищете. Но страшнее всего «новая бедность», которая отражает нищету практически всех работающих людей.

И если человеку несемейному и бездетному еще кое-как удается сводить концы с концами, то остальным приходится туго. Хоть плачь.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

